ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
СЭКТАР КНІГАГАНДЛЮ



ДА НОВАГА 1932-33 НАВУЧАЛЬНАГА ГОДУ

# МАЮЦЦА Ў ПРОДАЖЫ ПАДРУЧНІКІ

(У ДАСТАТКОВАЙ КОЛЬКАСЬЦІ)

## ВЫДАНЬНЯ 1931-32 г. г.

**ДАПУШЧАНЫЯ ДВС ПРЫ НКА ДЛЯ КАРЫСТАНЬНЯ Ў ШКОЛАХ НА 1932-1933 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД І ВЫСЫЛАЮЦЦА ПА ПЕРШЫМ ПАТРАБАВАНЬНІ ШКОЛ, НАСТАЎНІКАЎ І ВУЧНЯЎ**

### Падручнікі для І канцэнтру

**Гарбацэвіч Л.** Граматыка беларускай мовы. Рабочая кніга для IV г. нав. (Выд. II пераапрацаванае). 1931 г.—ц. 55 к. пер. 15 к.

**Лойка М.** Наш калгас. Рабочая кніга па матэматыцы. (Выд. II, папраўленае) 1931 г.—ц. 50 к.

**Мяшалкіна-Сіўко і Лукіна.** Будзь гатоў. Кніга па грамаце для I г. нав. (Выд. II, пераапрацаванае). 1932 г.—ц. 40 к. пер. 12 к.

**Мяшалкіна-Сіўко і Лукіна.** Будзь гатоў. Кніжка па грамаце для I г. нав. Вып. II—1931 г.—ц. 40 к. пер. 12 к.

**Пігулеўскі М.** Бальшавік. Кніга для працы і чытаньня пасьля лемантара ч. II, 1932 г.—ц. 50 к. пер. 10 к.

**Пігулеўскі і Пісарчык.** Бальшавік. Кніжка па грамаце для I г. нав. 1932 г.—ц. 30 к. пер. 10 к.

**Пруднік і інш.** У бой за пяцігодку. Чытанка для II групы школ перарасткаў. Вып. II—,1931 г.—ц. 80 к.

**Пруднік і інш.** Юныя калгасьнікі. Чытанка для II групы. Вып. II 1931 г.—ц. 95 к.

### Падручнікі для ІІ канцэнтру

**Бярэзін, Ігнацьеў і інш.** Рабочая кніга па прыродазнаўстве для V г. нав.—1931 г.—ц. 1 р.

**Гарачкін.** Рабочая кніга па фізыцы. Для школ ФЗС для VII г. нав. (II паўгодзьдзе).—1931 г.—ц. 1 р. 10 к.

**Касабуцкі, Сагаловіч і інш.** Рабочая кніга па матэматыцы. V г. нав. Вып. I. (Выданьне II, стэрэатыпнае).—1931 г.—ц. 45 к.

**Касабуцкі, Сагаловіч і інш.** Рабочая кніга па матэматыцы. V г. нав. Вып. II—1932 г.—ц. 45 к.—пер. 10 к.

**Касабуцкі і Сагаловіч.** Рабочая кніга па матэматыцы. VII г. нав. Вып. II—1931 г.—ц. 50 к.

**Касмовіч С.** Географія па заэўропейскіх краінах, Азія Афрыка, Амэрыка і Аўстралія. (Выд II, пераапрацаванае). 1931 г.—ц. 1 р. 60 к.

### Падручнікі для вячэрніх школ дарослых

**Кобзіт і Радкевіч.** Рабочая кніга па прыродазнаўстве для вячэрніх школ I ступені.—1932 г.—ц. 80 к. пер. 15 к.

**Мар'ясіна С. А.** У краіне саветаў. Чытанка для гарадзкіх школ малапісьменных. (Вып. II, перарobленае) 1931 г.—ц. 55 к. пер. 15 к.

**Сагаловіч Г.** Рабочая кніга па матэматыцы для лікпунктаў і школ малапісьменных. (Выд. IV, стэрэатыпнае) 1932 г.—ц. 70 к. пер. 15 к.

**Сьцепановіч, Капаевіч і інш.** Чырвоны шлях. Чытанка для вясковых школ I ступені—малапісьменных. Вып. II (Выд. II пераапрацаванае). 1931 г.—ц. 40 к.

### Падручнікі для рабфакаў, тэхнікумаў і ВНУ

**Бэркут і інш.** Рабочая кніга для вывучэньня матэматыкі па дальтон-пляне і акорднай сыстэме ч. II (Курс II і III г. рабфакаў, вайсковых школ, тэхнікумаў, агульнаадукацыйных курсаў і інш.). 1931 г.—ц. 1 р. 80 к.

**Бурдзянскі.** Асновы рацыяналізацыі вытворчасьці. Падручнік для камвузаў, рабочых унівэрсытэтаў і сеткі прафтэхасьветы. (Выд. II, перагледжанае і дапоўненае). 1931 г.—ц. 1 р. 70 к.

**Галавін і інш.** Курс геадэзіі, ч. I (Пад рэд. проф. Ф. Н. Красоўскага) 1931 г.—ц. 5 р. 60 к. пер. 40 к.

**Алексапольскі і інш.** Курс геадэзіі, ч. II (Пад рэд. проф. Ф. Н. Красоўскага). 1931 г.—ц. 3 р. 75 к. пер. 40 к.

**Круталевіч і Сагаловіч.** Мэтодыка арытмэтыкі, ч. I. (Выд. III, папраўленае) (ДВС пры НКА БССР дапушчана ў якасьці падручніка для пэдтэхнікумаў і дапаможніка для настаўнікаў) 1932 г.—ц. 1 р. пер. 10 к.

**Ламскі І.** Паталёгічная фізыялёгія хатніх жывёл. Агульная паталёгія. Дапаможнік для студэнтаў вэтэрынарных ВНУ. 1931 г.—ц. 3 р. пер. 35 к.

**Лапідус і Астравіцянаў.** Політычная эканомія. (Тэорыя таварна-капіталістычнай гаспадаркі—Нарыс тэорыі савецкай гаспадаркі). (Пераклад з VI расійскага выданьня) 1931 г. ц. 1 р. 25 к. пер. 25 к.

**Магілеўчык З. (д-р).** Практыкум па экспэрымэнтальнай (агульнай) гігіене. 1931 г.—ц. 2 р. пер. 15 к.

**Шабуня А. (інж.)** Нарысная геомэтрыя. 1. Артаганальныя праекцыі. 2. Аксонамэтрыя. 3. Лінейная пэрспэктыва. (НМК пры НКА БССР дапушчана ў якасьці падручніка для вышэйшых школ і тэхнікумаў). 1931 г.—ц. 1 р. 50 к. пер. 25 к.

**Шабуня А. (інж.).** Атлас рысункаў па нарыснай геамэтрыі. (Артаганальныя праекцыі, аксонамэтрыя, лінейная пэрспэктыва). 1932 г.—ц. 2 р. 50 к. пер. 50 к.

**Шалаўраў Н. В.** Мэтодыка фізыкі, ч. I. (Дапаможнік для студэнтаў пэдфакаў і пэдінстытутаў і для выкладчыкаў фізыкі). 1932 г.—ц. 2 р. 90 к. пер. 65 к.

**УВАГА:** Усе астатнія, вышаўшыя з друку, падручнікі для масавай школы, выданыя паводле пляну на 1932-33 нав. год, і падручнікі (выд. 1931 г.), дапушчаныя ДВС пры НКА для карыстаньня ў масавай школе на 1932-33 нав. год, разасланы па школах (згодна іх заявак) і маюцца ў продажы.

## ЗАКАЗЫ НАКІРОЎВАЦЬ усім філіялам і райкнігарням ДВБ і коопэрацыі

Зьмяшчаючы тут сьпіс падручнікаў, якія маюцца на цэнтральнай базе ў Менску ў дастатковай колькасьці, прапануюць праправаваць яго дэталёва і прысылаць свае заказы для папаўненьня свайго асортымэнту.

Трэба арганізаваць збор заказаў на гэтыя падручнікі непасрэдна па школах свайго раёну.

Філіялы і райкнігарні могуць складаць такія-ж сьпісы, у залежнасьці ад маючыхся запасаў-лішкаў падручнікаў на мясцох, і друкаваць іх (сьпісы) у раённым друку.

Выдавец—Кнігасэктар ДВБ ... эдактар Я. Клейнэр.
Друк. Імя Сталіна Зак № 2494. 1.400 ... Уп. Галоўлітбелу № 1005.